# КРЫВІЯ

**Выданьне беларускае дыяспары ў Чэхіі**

**№28 Сьнежань 2012 - Люты 2013**

**Культурна-асьветніцкая газэта**


## З Ь М Е С Т



## Беларуская Чэхія

у Празе, 21.11.2012

**Заява грамадзкай арганізацыі беларусаў Чэхіі "Пагоня" з нагоды так званага "Першага сходу беларускіх аб'яднаньняў Чэхіі"**

Мы, Рада грамадзкай арганізацыі беларусаў Чэхіі "Пагоня", чуемся ў абавязку выказаць нашую пазыцыю з нагоды так званага "Першага сходу беларускіх аб'яднаньняў Чэхіі" (далей – "Сход") і асьвятленьня гэтай падзеі журналістам Франкам Вячоркам на сайце беларускай рэдакцыі "Радыё "Свабода" ў артыкуле "У Празе створаць альтэрнатыўную Амбасаду Беларусі".

Так званы "Першы сход беларускіх аб'яднаньняў Чэхіі", што адбыўся 20 лістапада 2012 года ў канфэрэнц-залі праскага кінатэатру "Люцэрна" і сабраў прадстаўнікоў шасьці грамадскіх аб'яднанняў быў нічым іншым як **тэатральна-паказушнай пастаноўкай,** зрэжысаванай палітычным уцекачом Аляксеем Міхалевічам. Відавочнай мэтай гэтай пастаноўкі была чарговая спроба паказаць спадара Міхалевіча ў якасьці аб'яднальніка і лідэра беларускай супольнасьці ў Чэхіі.

З шасьці зарэгістраваных у Чэхіі арганізацыяў, прадстаўнікі якіх прысутнічалі на гэтак званым "Сходзе", пяць – гэта альбо арганізацыі, што дзеяць па-за межамі Чэскай Рэспублікі ("Разам" і "Наш дом"), альбо камэрцыйныя ці адмыслова "адроджаныя" групоўкі, неабходныя Міхалевічу дзеля легітымізацыі "лідэрскага" статусу сабе і ягонай "Асацыяцыі "За мадэрнізацыю". Зазвычай, іх дзейнасьць абмяжоўваецца выключна палітычнымі ці палітызаванымі акцыямі, зьвязанымі з падзеямі ў Беларусі ці вакол яе. На падставе вышэй апісанага, мы ўважаем, што ніводная з гэтых пяцёх арганізацыяў не займаецца захаваньнем і разьвіцьцём беларускай мовы, культуры і традыцыяў у Чэхіі, што не дазваляе ім прамаўляць ад імя беларускай грамады ў Чэскай Рэспубліцы і выступаць у якасьці яе прадстаўнікоў.

Сярод удзельнікаў так званага "Сходу" толькі грамадзкая суполка "Пагоня" займаецца культурна-асьветнай дзейнасьцю, скіраванай на захаваньне

беларускай мовы, культуры і традыцыяў сярод беларускай супольнасьці ў Чэхіі і азнаямленьня зь ёй шырэйшай чэскай супольнасьці, што ня толькі спрычыняецца да пашырэньня ўсебаковых (а ня толькі палітычных) ведаў пра Беларусь у чэскім грамадзтве, але і спрыяе інтэграцыі беларусаў у грамадзтва Чэскай Рэспублікі. Суполкай "Пагоня" выдаецца культурна-асьветная газэта "Крывія", утрымліваецца Беларуская бібліятэка ў Празе, якая рэгулярна папаўняецца дзякуючы нашым сталым кантактам з партнэрамі як у Беларусі, так і па-за яе межамі, ладзяцца розныя культурна-асьветныя мерапрыемствы і заняткі па інтарэсах. Менавіта чальцы суполкі "Пагоня" больш за два гады таму ініцыявалі і актыўна займаюцца працэсам прызнаньня беларусаў у якасьці нацыянальнай меншасьці ў Чэскай Рэспубліцы з мэтай таго, каб грамадзка-культурніцкая дзейнасьць сярод беларусаў Чэхіі была больш эфэктыўнай. Менавіта гэтыя акалічнасьці дзейнасьці "Пагоні" і агучыў наш прадстаўнік у часе так званага "Сходу".

Журналіст Франак Вячорка "сэнсацыйным" загалоўкам свайго рэпартажу "У Празе створаць "альтэрнатыўную Амбасаду Беларусі" спрычыніўся да шырокай дэзінфармацыі грамадзтва, заявіўшы, што быццам "шэсьць беларускіх арганізацыяў у Чэхіі дамовіліся пра супольны плян дзеяньняў", у тым ліку пра так званы "Беларускі дом у Празе". Мы лічым прапагандысцкай дэзінфармацыяй з боку Франка Вячоркі заяву наконт нейкай дамоўленасьці пра "супольны плян дзеяньняў", бо прыняцьця якога-колечы супольнага пляну дзеяньняў усімі шасьцю арганізацыямі **не адбылося.** Акрамя таго, мы лічым праект так званага "Беларускага дому ў Празе" вельмі сумнеўным і ўважаем, што сярод шырэйшай публікі ён выкліча шмат пытаньняў датычна сродкаў і спосабаў ягонага фінансаваньня, магчымай залежнасьці ад чыёйсьці падтрымкі і таго, хто ўзначаліць гэты "Беларускі дом".

Мы падкрэсьліваем, што нашае меркаваньне наконт асьвятленьня гэтай падзеі журналістам Франкам Вячоркам на сайце беларускай рэдакцыі "Радыё "Свабода" тычыцца выключна канкрэтнага журналіста і канкрэтнага матар'ялу. Наша меркаваньне пра канкрэтны матар'ял аніякім чынам не распаўсюджваецца на шанаваную намі беларускую рэдакцыю "Радыё "Свабода" і іншых яе супрацоўнікаў.

Зыходзячы з усяго згаданага вышэй, мы, Рада грамадзкай арганізацыі беларусаў Чэхіі "Пагоня", заяўляем, што:

- і надалей уся дзейнасьць нашай арганізацыі будзе праходзіць выключна ў грамадзка-культурніцкім рэчышчы, скіраваным найперш на захаваньне беларускай мовы, культуры і традыцыяў сярод беларускай супольнасьці ў Чэхіі, а таксама на кансалідацыю беларускай супольнасьці ў Чэхіі;- які-колечы фармальны удзел нашай арганізацыі ў любой палітычнай ці палітызаванай дзейнасьці (у тым ліку падтрымка палітычных акцыяў, дзейнасьці паасобных палітыкаў, удзел у палітычна-матываваных задзіночаньнях арганізацыяў і г.д.) супярэчыць нашаму Статуту і мэтам нашай дзейнасьці. **Гэта, аднак, ня выключае магчымасьці ўдзелу паасобных чальцоў нашай арганізацыі ў такой дзейнасьці, што ёсьць іх індывідуальным выбарам, які ня можа разглядацца як дзейнасьць ад імя "Пагоні";**

- мы надалей адкрытыя да супрацы з усімі грамадзка-культурніцкімі непалітычнымі і палітычна незаангажаванымі арганізацыямі, што прадстаўляюць беларускую супольнасьць у Чэскай Рэспубліцы і па-за яе межамі ў грамадзка-культурнай і асьветніцкай сфэрах з мэтай пашырэньня ўсебаковых ведаў пра Беларусь, яе гісторыю, нацыянальную культуру, нацыянальныя традыцыі і нацыянальную мову ў грамадзтве Чэскай Рэспублікі, эфэктыўнай інтэграцыі ў яго беларусаў, што жывуць у Чэскай Рэспубліцы, а таксама дэпалітызацыі і дэстэрэатыпізацыі іміджу беларусаў у чэскім грамадзтве.

Рада грамадзкай арганізацыі беларусаў Чэхіі "Пагоня"

**ЗАЎВАГА рэдактара КРЫВІІ:**

Апрача вышэй успомненых 6 арганізацыяў на «Сход» былі таксама запрошаныя суполка «СКАРЫНА» і «Грамадзянская Беларусь» , якія не паслалі сваіх прадстаўнікоў.

# Канцэрты арганнай і камернай музыкі ў межах праекту "Ф. Скарына ў Еўропе"

У межах "Дзён Ф. Скарыны ў Празе" 11-га сьнежня 2012 г. адбыўся канцэрт арганнай музыкі -.

у Касьцеле Дзевы Марыі пад ланцугом (kostel Panny Marie pod řetězem), што знаходзіцца літаральна ў двух кроках ад Карлавага Мосту.

Акрамя гэтага ў межах "Дзён Ф. Скарыны ў Празе" беларуская дэлегацыя возьме ўдзел у мерапрыемствах у Клементынуме (каля памятнай дошкі) - у аўторак, 11-га сьнежня, у 11 гадз.

Запланаванае і ўскладаньне кветак да помніку Ф. Скарыны - у 15 гадз.

У праграме сустрэчы:

Сьціслы выступ А. Кароткінай «Прадмова Ф. Скарыны» да «Псалтыра». Вопыт рэлігіязнаўчага аналізу», «Расшыфроўкі песнапеньняў з Ірмалагіёнаў – сьпеўныя зборнікі 16-га стагоддзя і іх адбіткі ў мастацтве».

**Праграма канцэрту арганнай музыкі:**

*І.С.Бах. Такката і фуга d- moll BWV 565*

*Д.Пергалэзі. Арыя № 6 f - moll з кантаты «Stabat Mater»*

*А.Кароткіна. Сюіта «Францішак Скарына» («Біблія Скарыны», «Маргарыта», «Францішак»)*
*І.Лучанок. Ave Maria*
*С.Монюшко. «Domine, ne in furore tuo» з цыклу «Песні нашага касцёла»*
*А.Кароткіна. сюіта «Гальшаны» («Замак», «Манастыр», Lacrimoso, «Спадчына Сапегі»)*
*Г.Ф.Гендэль. Арыя Рынальда з воперы Рынальда*
*А.Вівальдзі. Арыя з воперы «Баязет»*
Выканаўцы:
салістка Сафійскага сабору г. Полацка
**Ксеня Пагарэлая** (арган)
салістка Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатру
**Анна Бяляева** (вакал)

**Канцэрт камернай музыкі**
У праграме:
Творы беларускіх кампазітараў XVII-XXI стагодзьдзяў
Выканаўцы:
салістка Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатру
**Анна Бяляева** (вакал)
дыпламант міжнародных конкурсаў
**Іван Юркевіч (фартэп’яна)**



Выканаўцы канцэртаў з прадстаўнікамі беларускай грамады Прагі ля памятнай дошкі Ф. Скарыну

## Акцыя падтрымкі паліт-зьняволеным у Беларусі - на Старамесцкай плошчы ў Празе

19-га сьнежня 2012 г., у другую гадавіну Плошчы, актывісты беларускіх і чэскіх няўрадывых арганізацыяў арганізавалі пікет пад старажытным гадзіньнікам на Старамесцкай плошчы ў Празе.

Акцыя, прысьвечаная другой гадавіне падзеяў 19 сьнежня 2010 году была арганізаваная грамадзянскай кампаніяй “Наш Дом”, Беларускай асацыяцыяй за мадэрнізацыю і чэскай праваабарончай арганізацыяй “Чалавек у нядолі”.







**НАЙНАВЕЙШЫЯ**
**весткі**
**з жыцьця беларусаў Чэхіі**
знойдзеце на сеціўнай старонцы
суполкі ПАГОНЯ
**http://pahonia.cz**

## Беларускія Каляды ў Празе

Сёньня (25 сьнежня) ў Празе мясцовыя беларусы адзначылі сьвята Раства Хрыстовага набажэнствам у грэка-каталіцкай царкве сьвятых Кузмы і Дзям’яна і сьвяточнай гасьцінай у тэатральнай залі пры царкве.

Пасьля невялікага сьпеўнага конкурсу і скокаў дзеці атрымалі падарункі ад сьвятога Міколы. Адбыўся таксама сьвяточны абед. У лістападзе сёлета пробашч мясцовай беларускай парафіі Дабравешчаньня Найсьвяцейшай Багародзіцы айцец Андрусь Абламейка абвясьціў дабрачынную акцыю па прынцыпе Самарытанскага кашаля – збор калядных падарункаў для дзяцей у прытулках Беларусі.

Праскія беларусы сабралі вялікую колькасьць патрэбных дзецям розных узростаў рэчаў: невялікія прадметы гігіены, дзіцячы шампунь, паста для зубоў, шчоткі, дзіцячая касмэтыка для дзяўчынак; канцылярскія прылады – каляровыя алоўкі, флямастры, крэйдкі, асадкі, блакноты, альбомы для маляваньня і іншае.



# Беларусы ў Чэхіі: “свае стралялі ў сваіх” альбо колькі словаў наконт беларускай салідарнасьці

Здавалася б шэраговая гісторыя вакол рэгістрацыі ў Празе так званага “Беларускага дому” на чале з Натальляй Маковік мела даволі шырокі розгалас дзякуючы агенцыі БелаПАН. У рэальнасьці распачала дзейнасьць чарговая арганізацыя, а потым пачаў працаваць ейны сайт. Здавалася б, нічога надзвычайнага ў кожнай з гэтых падзеяў няма, бо ў Празе дзейнічае шэраг беларускіх арганізацыяў, кожная зь якіх займае пэўную нішу.

“Беларускі дом” хоць і вылучаўся гучнай назвай, але меў стацца адной з такіх арганізацыяў. БелаПАН, а пазней праз передрук арыгінальных матэрыялаў БелаПАНу Радыё “Свабода”, TUT.BY і шэраг іншых сайтаў, спрычыніліся да рэкламы праекту спн. Маковік. Яна заявіла амбітныя мэты праекту, які, нібыта, мае “выконваць функцыю “альтэрнатыўнай амбасады Беларусі” і стане праваабарончым і інфармацыйным цэнтрам для беларусаў у Чэхіі. Згодна з пададзенай інфармацыяй, нібыта “стварыць Беларускі дом у Празе пастанавілі ў лістападзе 2012 году на першым паседжаньні беларускіх арганізацыяў, зарэгістраваных у Чэхіі”. Пры гэтым, сьпіс тых арганізацыяў быў пададзены ў тэксьце БелаПАНу. У тэксьце БелаПАНу таксама падкрэсьлівалася, што “рэгістрацыя дазваляе зьвяртацца ў дзяржаўныя ўстановы, гарадскую адміністрацыю, грамадскія інстытуты ды супрацоўнічаць зь імі”.

Уся гэтая інфармацыя выглядае на першы погляд пераканаўча для чытача, які ёсьць вонкавым назіральнікам. Тым, хто ведае пра гісторыю вакол “Беларускага дому” трошкі больш, інфармацыя, пададзеная БелаПАНам, падаецца нічым іншым як недапраўдай. Прычым, гэта настолькі ўдала зроблена, што насамрэч даволі цяжка пабачыць дзе тут факты, а дзе - чыесьці інтэрпрэтацыі.

Такім чынам стварэнне “Беларускага дому” пададзенае як нібыта агульнае рашэнне шасьці беларускіх арганізацыяў Чэхіі і можа падацца вынікам “салідарызацыі” беларускай грамады краіны. Аднак, па-першае, само азнаямленьне з дакументамі таго лістападаўскага “сходу беларускіх арганізацыяў” паказвае, што аніякіх рашэньняў пра які-кольвек супольны план дзеянняў ці ўвогуле нейкія канкрэтныя захады ў гэтым пытаньні ня прымалася. Тым больш, сама ідэя стварэньня “Беларускага дому” ня была падтрыманая ўсімі ўдзельнікамі так званага сходу. Пра гэта згадвалася ў адмысловай заяве Рады грамадзкай арганізацыі беларусаў Чэхіі “Пагоня”, распаўсюджанай 21 лістапада 2012 году. Па-другое, прынамсі тры з гэтых шасьці арганізацыяў заявілі, што ня маюць да “Беларускага дому” ніякага дачыненьня (Асацыяцыя “За мадэрнізацыю”, “Наш дом” і “Пагоня”). Па-трэцяе, ніякай дадатковай патрэбы для арганізацыі камунікацыі і супрацоўніцтва з чэскімі дзяржаўнымі ўстановамі, гарадской адміністрацыяй, грамадскімі інстытутамі няма. Дзейныя ў Празе беларускія арганізацыі даволі добра і плённа дачыняюцца з чэскімі ўладамі розных узроўняў, а таксама мясцовымі грамадскімі інстытутамі, кожная ў сваёй сферы. Прыкладам гэтага ёсьць дзейнасьць суполкі “Пагоня”, сябры якой больш за два гады і даволі пасьпяхова займаюцца прызнаньнем беларусаў у якасьці нацыянальнай меншасьці ў Чэхіі.

Таму, уся гэтая гісторыя з інфармацыйным укідам наконт стварэньня “Беларускага дому” паказвае неабходнасьць акцэнтаваць увагу на трох акалічнасьцях. Па-першае, даволі дзіўным выглядае спачатны непрафесіяналізм БелаПАНу, журналісты якога замест таго, каб праўдзіць інфармацыю, магчыма, запытацца ўсе бакі, змясьцілі яе ў сябе на сайце, выклікаўшы яе далейшы распаўсюд у байнэце. Па-другое, з шэраговай рэгістрацыі шэраговай арганізацыі была зробленая навіна. Па-трэцяе, згаданы ў першым пункце спосаб падачы інфармацыі выклікаў шмат неразуменьня з боку “вонкавых назіральнікаў”, чаго б не магло стацца, калі б былі выслуханыя ўсе бакі.

Фраза, вынесеная ў загаловак, належыць лявіцоваму летувіскаму палітыку Альгірдасу Палецкісу і тычыцца падзеяў 13 студзеня 1991 году ў Вільні, трактаваньне якіх узьведзена летувіскай дзяржавай у ранг абсалюту. Згодна з Палецкісам, тады “свае стралялі ў сваіх”. Гэтая фраза мела вынікам судовую справу. Ня важна, ці меў рацыю Палецкіс, а важна тое, што гэтыя падзеі могуць трактавацца па-рознаму. Увядзеньне ж нейкага факту ў абсалют ня толькі супярэчыць прынцыпу свабоды меркаваньня, але і здароваму глузду.

У выпадку некаторых каментатараў на сайце “Свабоды” ў справе “Беларускага дому” гэтым абсалютам ёсьць эфімерная салідарнасьць, якую яны бачаць як неабходнасьць аб’ядноўвацца (не аб’яднацца!), ахвяруючы асабістымі амбіцыямі вакол адной мэты, якой ёсьць жаданьне перамагчы рэжым Лукашэнкі. Гэтае жаданьне можа быць цалкам зразумелым, хоць бы мінімальна з прычыны існаваньня плюралізму меркаваньняў. Тут, аднак, паўстае іншае гарбачоўскае пытаньне ” насамрэч - хто ёсьць хто?”

Уявім сабе гэтую сітуацыю. Узьніклая “зь нябыту” спн. Маковік спрабуе аб’яднаць вакол сябе беларускую супольнасьць Чэхіі, ня маючы для гэтага ні аўтарытэту, ні чалавечых рэсурсаў, затое маючы доступ да медыяў і граючы на апярэджаньне. Гэта нагадвае акурат мэтанакіраваныя стрэлы, у выніку якіх узьнікае інфармацыйнае поле. “Ахвярамі” гэтых “стрэлаў” ёсьць звычайныя абывацелі, якія чытаюць навіны ў байнэце. Выглядае, што нехта, у дадзеным выпадку Маковік, спрабуе прадставіць сябе як “інтэгратара-аб’ядняльніка”, які датрымліваецца ідэяў дэмакратычнай і вольнай Беларусі. Тыя, хто ня хоча супрацоўнічаць у агучаным ёй фармаце, мусяць дзеяць,

прадставіўшы свае аргументы. Аднак, “параненаму” і зачараванаму новай бліскучай шыльдай грамадству тыя аргументы ўжо не патрэбныя, бо апантанае эфімернай салідарнасьцю яно зазвычай не жадае далей разьбірацца ў дэталях. Іншымі словамі, хто першы грамчэй пра сябе заявіў, той і салідарызатар. У выніку, голас тых, хто больш за дзесяць гадоў рэальна займаецца беларускай справай у Чэхіі застаецца не пачутым, а новая арганізацыя з гучным імем спрабуе сябе легітымізаваць за кошт багажу іншых, фактычна нічога собскага покуль і не зрабіўшы.

У выніку і атрымліваецца, што “свае страляюць у сваіх”, спрабуючы прысабечыць даробак іншых і раскруціцца за кошт гэтага, а вонкаваму назіральніку ў гэтым бачыцца, што нехта нібыта замінае салідарнасьці беларусаў.

- тэкст: Кірыл Касцян
- крыніца: **thepointjournal.com, 20.01.2013**

# Беларуская нядзельная школа ў Празе

*Удалы пачатак заняткаў*

У нядзею 3-га лютага г. г. прайшлі сёлета першыя лекцыі беларускае школы ў Празе.

Вучні школы падзеленыя на 2 групы:

**МАЛОДШЫЯ** ( векам 6-8 год) – цяпер 4-5 вучняў.

Настаўніца – сп-ня Ксеня Бязрукая

Матар'ял навукі: літары беларускае кірыліцы,

чытаньне, пісаньне; Першая чытанка; Выразы з штодзённага жыцьця.

**СТАРЭЙШЫЯ** (векам 10-13 год) - цяпер 4-5 вучняў.

Настаўнікі: – сп. Павал Котаў, сп. Юрка Станкевіч.

Матар'ял навукі: Гісторыя Беларусі, Выразы з штодзённага жыцьця; Беларускі правапіс; Скарочаны агляд граматыкі.

Заняткі праводзяцца **што-другую нядзелю**:

17 лютага, 3 і 17 сакавіка, 7 і 21 красавіка, 5 і 19 траўня, 2 і 16 чэрвеня.

**ДЗЕ**: у Доме Нацыянальных Мяншыняў (Dům Národnostních Menšin), Vocelova 602/3.

ДАВОЗ вучняў у некаторых выпадках даволі складаны – АЛЕ, тут трэба ацаніць дапамогу і ахвярнасьць бацькоў.

Да ўдалага пачатку найбольш прычыніліся:

выгоднае месца ( у цэнтры Прагі, блізка станцыі мэтро)

маладыя настаўнікі – прадстаўнікі студэнцкае моладзі. Было прыемна пабачыць іхную ахвоту – і замілаваньне навучаньнем дзетак.

Урэшце, самім вучням спадабалася пабыць у КАЛЕКТЫВЕ беларускамоўных равесьнікаў.

Школа яшчэ прымае вучняў у абедзьве групы. Зьвяртайцеся, калі ласка на тэл. **774 613 356**.



*Лекцыя гісторыі*

**ВІНШУЕМ!**

сп-ню Натальлю Кузьняцову і

сп. Кірыла Якімовіча

з нараджэньнем дзетак

**ЯРАМІРА й МАІ**

Хай-жа жывуць яны на радасьць і карысьць

беларускаму народу!

**ВІНШУЕМ**
**з НАРОДЗІНАМІ!**

**у ЛІСТАПАДЗЕ:**
**Адася Калюту**

**у СЬНЕЖНІ:**
**Макса Шчура**
**Кірыла Касьцяна**
**Алеся Судлянкова**
**Натальлю Алейнікаву**

**у СТУДЗЕНІ:**
**Вольгу Вінакураву**

**у ЛЮТЫМ:**
**Сьвету Гвазьдзіцкую,**
**Мікалая Вінакурава**
**Зьмітра Кожуха**

# Віленскі Мэмарандум

*Мэмарандум нарады старшыняў і кіраўнікоў беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў са Старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

## Аб захадах для забесьпячэньня незалежнасьці Беларусі

3-га лістапада 2012 г., м. Вільня

**Мы, ніжэйпадпісаныя прадстаўнікі палітычных і грамадзкіх арганізацыяў Беларусі, на сходзе 3-га лістапада 2012 году ў Вільні пад эгідай, пры паразуменьні і ва ўзаемным садзеяньні са Старшынёй і сябрамі Прэзыдыюму Рады БНР:**

**- усьведамляючы небясьпеку, якая паўстала ў выніку паступовае страты структураю дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы Беларусі, па меры яе ператварэньня ў прыладу рэжыму асабістай улады А. Лукашэнкі, рысаў беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці й функцыяў гарантаваньня беларускага нацыянальнага сувэрэнітэту;**

**- перакананыя, што суб'ектам і першасным гарантам незалежнай дзяржаўнасьці Беларусі і нацыянальна-культурнай пэрспэктывы беларусаў ёсьць сам беларускі народ, які павінен сьцьвярджаць сваю палітычную волю ва ўмовах свабоды;**

**- разглядаючы справу захаваньня і паўнавартаснай адбудовы сувэрэнітэту беларускага народу ў нашай нацыянальнай бацькаўшчыне як мэту, што яднае палітычную супольнасьць у Беларусі і беларусаў ва ўсім сьвеце,**

**пагадзіліся ў наступным і прымаем узаемныя абавязкі дзеля наступнага:**

(1) Зарукай забесьпячэньня беларускага нацыянальнага сувэрэнітэту будзе аднаўленьне мэханізму прыняцьця беларускім грамадзтвам свабодных і абгрунтаваных рашэньняў аб сваёй палітычнай будучыні, што запатрабуе дэмантажу аўтарытарнага рэжыму. Як найхутчэй маюць быць прынятыя меры засьцярогі ад паўторнага надыходу аўтарытарызму і злоўжываньня ўладай.

(2) Трэба дамагацца як найшырэйшага прызнаньня міжнароднай супольнасьцю, што Аляксандар Лукашэнка і дзяржаўныя органы пад ягоным кантролем, пры адсутнасьці дэмакратычнай легітымнасьці, ня ёсьць правамоцным і дзеяздольным прадстаўніцтвам Беларусі, асабліва у разе прыняцьця ад імя Беларусі абавязкаў і пагадненьняў з наступствамі, якія абмяжоўваюць ці абцяжарваюць яе сувэрэнітэт або датычаць распродажу дзяржаўнай маёмасьці. Гэткія пагадненьні ня будуць абавязковыя для дэмакратычнай беларускай дзяржавы ў будучыні, а стануць прадметам перагляду і магчымага скасаваньня або карэкцыі.

(3) Неабходная каардынацыя намаганьняў грамадзкіх і палітычных арганізацыяў, у т.л. беларусаў замежжа, для супрацьстаяньня афіцыйнай прапагандзе, якая зьнішчае беларускую нацыянальную сьвядомасьць, і для ўмацаваньня ў беларускім грамадзтве ўсьведамленьня каштоўнасьці сувэрэннага нацыянальнага існаваньня.

(4) Павінен быць мацнейшы скаардынаваны ціск палітычнай і грамадзянскай супольнасьці ў краіне і за яе межамі дзеля зьмяншэньня ў беларускім грамадзтве пачуцьця страху, найперш вызваленьня і рэабілітацыі палітычных вязьняў, спыненьня палітычных рэпрэсіяў і дэмантажу рэпрэсіўнага апарату, свабоды для сродкаў масавай інфармацыі, а ўрэшце – правядзеньня свабодных выбараў. Выкананьне гэтых умоваў дазволіць Беларусі выйсьці зь міжнароднай самаізаляцыі, адкрые магчымасьці дзеля падвышэньня дабрабыту народу і ўмацаваньня сувэрэнітэту праз належны ўдзел у сыстэме міжнародных дачыненьняў.

(5) Неабходна дамагацца гарантыяў непарушнасьці беларускага нацыянальнага сувэрэнітэту з боку краінаў Эўрапейскага Зьвязу, Злучаных Штатаў Амэрыкі і Расейскай Фэдэрацыі, непрызнаньня міжнародна-праўнай сілы любых небясьпечных для сувэрэннага статусу Беларусі рашэньняў, якія ад яе імя можа зрабіць аўтарытарнае кіраўніцтва, а таксама непрызнаньня легітымнасьці любых шкодных для сувэрэнітэту Беларусі правоў і прывілеяў, якія Расейская Фэдэрацыя можа сьцьвярджаць ці дамагацца ў Беларусі на грунце дактрыны “зоны асаблівых інтарэсаў”.

(6) Дзеля забесьпячэньня сувэрэнітэту ад рызыкаў крызіснага і пераходнага пэрыяду ў абставінах каляпсу аўтарытарнага рэжыму неабходна распрацаваць і палітычна ўзгадніць супольны пакет першачарговых палітычных, эканамічных і юрыдычных захадаў у галіне энэргэтычнай і харчовай бясьпекі, культурна-інфармацыйнай палітыкі, забесьпячэньня адміністрацыйнай кіравальнасьці ва ўмовах пераходу да дэмакратыі, барацьбы з карупцыяй і арганізаванай злачыннасьцю, а таксама забясьпечыць максымальную падтрымку, якую можна мабілізаваць з боку прыхільных гэтым мэтам дзяржаваў і міжнародных арганізацыяў.

(7) Удзельнікі нарады зь Беларусі пацьвярджаюць прызнаньне Рады БНР у яе статутнай ролі непартыйнага, надпалітычнага органу беларускай гістарычнай дзяржаўнасьці, будуць імкнуцца каардынаваць з Радай БНР працу дзеля дасягненьня вышэйзгаданых супольных задачаў, будуць разьлічваць на адпаведнае садзеяньне і падтрымку з боку Рады БНР, будуць спрыяць Радзе у яе дзейнасьці дзеля канчатковага спаўненьня свайго гістарычнага мандату.

(8) Да часу надыходу статутных умоваў складаньня Радай БНР свайго гістарычнага мандату, г. зн. абраньня дэмакратычнае ўлады на свабодных выбарах, пры гарантаванай дзяржаўнай незалежнасьці, прадстаўнікі беларускай палітычнай і грамадзянскай супольнасьці прызнаюць Раду БНР рэзэрвовым палітычным дэпазытарам беларускай незалежнай дзяржаўнай традыцыі. Старшыня і сябры Прэзыдыюму Рады БНР пацьвярджаюць адданасьць Рады мэце спаўненьня свайго статутнага мандату. Да часу заканчэньня свайго мандату Рада БНР можа адыгрываць таксама іншыя ролі, да якіх была б належна пакліканая беларуская палітычная супольнасьцю і грамадзтвам.

**Беларускія палітычныя і грамадзкія арганізацыі і Рада Беларускай Народнай Рэспублікі маюць намер забясьпечваць у маштабе ўсясьветнай беларускай супольнасьці палітычную ды інфармацыйную каардынацыю, а таксама спрыяць адпаведнаму ўзаемадзеяньню рэсурсаў сваіх арганізацыяў і органаў на ўсіх узроўнях, у Беларусі і ў вонкавых кантактах, у**

**рэалізацыі супольных і (ці) скаардынаваных захадаў дзеля захаваньня нацыянальнай незалежнасьці ў абставінах самаізаляцыі, крызісу і дэмантажу аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі.**

*[Подпісы прадстаўнікоў арганізацыяў у альфабэтным парадку – на момант падпісаньня ў Вільні 03.11.2012 г.:]*

Барадач Уладзімер, Аргкамітэт “Рады нацыянальнага адраджэньня”

Вячорка Вінцук, Аргкамітэт “Беларускага Руху”

Дабравольскі Аляксандар., Аб’яднаная грамадзянская партыя

Дземідзенка Мікалай, “Малады Фронт”

Карач Вольга, ГК “Наш Дом”

Колас Уладзімер, Рада беларускай інтэлігенцыі

Мілінкевіч Аляксандар, “Рух “За Свабоду”

Шушкевіч Станіслаў, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада

Янукевіч Аляксей, Партыя БНФ

*[Подпісы прадстаўнікоў арганізацыяў у альфабэтным парадку – на момант апублікаваньня 12.11.2012 г.:]*

Някляеў Уладзімер, кампанія «Гавары праўду»

Зянон Пазьняк, Кансэрватыўна-хрысьціянская партыя БНФ

Віталь Рымашэўскі, Аргкамітэт партыі Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя

Вячаслаў Сіўчык, Рух салідарнасьці «Разам»

*Ад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

— Івонка Сурвілла, Старшыня Рады БНР

## Уладзімір Барадач пра Віленскі мемарандум: “Зроблены гістарычны крок, неабходны іншы, ня менш важны”.

У Вільні 3 лістапада 2012 года адбылася ўнікальная сустрэча кіраўніцтва Рады БНР з кіраўнікамі партыяў і грамадзкіх арганізацыяў Беларусі.

Для тых, хто шануе гісторыю, сімвалы нашай краіны, сустрэчы з такімі людзьмі як Івонка Сурвіла, Хведар Нюнька, Вячка і Юрка Станкевічы зьяўляюцца жывым прыкладам любові да Беларусі, адданасьці сваёй Радзіме. Яны натхняюць нас на барацьбу за яе вызваленьне ад дзікасьці і маразму, гэта прыклад нашай маральнасьці. Рада БНР зьяўляецца сёньня для Беларусі больш легітымнай маральнай і юрыдычнай структурай, чым прэзідэнт Лукашэнка і прызначаны ім парламент. 70 адсоткаў насельніцтва Беларусі жадае пераменаў. Гэта і кажа пра нелегітымнасьць рэжыму. Бо легітымны толькі народ, яго воля. Але трэба ўлічваць і тое, што маральныя і законныя аспекты ў краіне ня дзейнічаюць, тут кіруе самавольства і гвалт, тут пануе беззаконьне над правам.

Да гонару удзельнікаў гэтай канферэнцыі быў прыняты важны дакумент, зроблена вялікая справа.

Прыняты мемарандум ёсьць важным дэкларатыўным дакументам. Але цяпер неабходна зрабіць яшчэ адзін значны крок. Аргкамітэт Рады Нацыянальнага Адраджэньня прапануе выпрацаваць механізм рэалізацыі прынятых у мемарандуме палажэньняў. Але для гэтага неабходна стварыць сістэму барацьбы, непадкантрольную спецслужбам структуру, якая аб’яднае ў сабе ўсе патрыятычныя сілы за мяжой і ў Беларусі. Яна будзе вызначаць стратэгію і тактыку барацьбы за аднаўленьне Канстытуцыйнага ладу ў краіне. Яна будзе весьці перамовы з саюзьнікамі і праціўнікамі. Мы прапануем стварыць ЦЭНТР барацьбы – Раду Нацыянальнага Адраджэньня. Яе асобныя структуры будуць разьмяшчацца за мяжой і на тэрыторыі Беларусі. Усе яе высілкі і сродкі будуць накіраваныя на Беларусь і працу на яе тэрыторыі.

Бяз гэтага мы ня зможам уплываць на працэсы, якія адбываюцца ў нашай краіне. Тое, што мы маем – гэта не апазіцыя, гэта кіраваныя КДБ секты, якія змагаюцца паміж сабой за гранты, за выжываньне. Гэта сужыцьцё з рэжымам.

## БХД далучаецца да віленскага Мемарандуму БНР

Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя далучаецца да Мемарандуму, падпісанага 3 лістапада ў Вільні прадстаўнікамі беларускіх дэмакратычных сілаў і Радай БНР. У дзень падпісаньня Мемарандуму ніхто з кіраўніцтва БХД узяць удзел у сустрэчы ў Вільні ня здолеў: Павел Севярынец знаходзіцца на “хіміі” ў Купліне, а Віталь Рымашэўскі з-за ўмоўнага пакараньня ня змог выехаць зь Беларусі. Дакумент 8 лістапада ад імя Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі падпісаў Віталь Рымашэўскі:



*Віталь Рымашэўскі*

Як толькі мы атрымалі поўны тэкст Мемарандуму, які быў там падпісаны, то мы далучыліся, таму што, па-першае, гэтую сустрэчу і задуму ініцыявала Рада БНР, што стварае вялікі давер і да дакументу, і да ўсёй імпрэзы. Па-другое, гэта станоўчая спроба аб’яднаньня ўсіх дэмакратычных сілаў Беларусі аўтарытэтнымі людзьмі. Сапраўды, аўтарытэт Рады БНР сёньня не можа быць аспрэчаны. Кіраўніцтва Рады – гэта тыя людзі, якія карыстаюцца павагай сярод усіх дэмакратычных актывістаў Беларусі.

У Мемарандуме, дзе вызначаны кірункі сумеснай дзейнасьці, гаворыцца між іншымі, што «ўдзельнікі нарады зь Беларусі пацьвярджаюць прызнаньне Рады БНР у яе статутнай ролі непартыйнага, надпалітычнага органу беларускай дзяржаўнасьці» і «да часу надыходу статутных умоваў складаньня Радай свайго гістарычнага мандату, гэта значыць абраньня дэмакратычнай улады на свабодных выбарах, пры гарантаванай дзяржаўнай незалежнасьці, прадстаўнікі беларускай палітычнай і грамадзянскай супольнасьці прызнаюць Раду БНР рэзервовым палітычным дэпазітарыем беларускай незалежнай дзяржаўнай традыцыі.

Анна Шайкоўская, Беларускае Радыё Рацыя

# 150 год таму, у ноч на 23.1. 1863, успыхнула паўстаньне супраць Расеі.

*Каліноўскі, герой Беларусі, і парадоксы гісторыі: «Барацьба ня можа быць кулуарнай».*

У Беларусі яго ўзначаліў яго народжаны каля Белавежскай пушчы Канстанцін Каліноўскі. Правадыр Паўстаньня 1863-га пайшоў на верную сьмерць, але стаў нацыянальнай легендай.

Нас аддзяляе ад яго 150 гадоў — не такая і вялікая часавая адлегласьць. Каб лёс і гісторыя скλаліся інакш, Каліноўскі, народжаны ў 1838-м, мог бы дажыць да незалежнасьці Беларусі. Мо і доля Беларускай Народнай Рэспублікі была б інакшай, каб у 1918-м на чале яе стаў патрыярх вызвольнага руху, жывая легенда — 80-гадовы Начальнік паўстаньня.

Каліноўскі — унікальная асоба. Ён быў ваяром і інтэлектуалам, ваяром-інтэлектуалам. Ягоная «Мужыцкая праўда» была першай, ашаламляльнай на той час спробай рабіць перыядычнае выданьне па-беларуску.

Рэакцыя царскіх уладаў на паўстаньне стварыла перадумовы для развіцьця беларускага нацыяналізму.

Легенда Каліноўскага жыве. Імем Каліноўскага назвала Кастрычніцкую плошчу моладзь у часе пратэстаў пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006-га. Хлопцы робяць татуіроўкі з партрэтам «Кастанціна Вікенція». Чаму? Паспрабуем разабрацца.

Чаму паўстаньне Каліноўскага так актуальна ўспрымаецца сёньня і выклікае жывыя дыскусіі? Адказвае філосаф **Валер Булгакаў.**

**«Наша Ніва»: Ці адыграла паўстаньне 1863 году нейкую ролю ва ўзьнікненьні беларускага руху?**

**Валер Булгакаў:** Паўстаньне вяло да крышталізацыі беларускага руху. Выкліканы ім палітычны выбух нарадзіў беларускі нацыяналізм. Каліноўскі ня быў яго родапачынальнікам, але праз свае рэвалюцыйныя пракламацыі ён заклаў новы тып грамадскай актыўнасьці.

**«НН»: Што маецца на ўвазе?**

**ВБ:** Каліноўскі сваёй «Мужыцкай праўдай» прадвызначыў пэўныя мадэлі працы з грамадствам у варунках палітычнай несвабоды. Ён паказаў, што нават у самых змрочных умовах важна даходзіць да самага простага чалавека, а не замыкацца на «высокіх», «элітарных» асяроддзях.

У гэтым сэнсе Каліноўскі — цалкам сучасны дзеяч, які цудоўна разумеў, што барацьба за свабоду і дэмакратыю ня можа быць кулуарнай.

**«НН»: Так, у паўстаньні Каліноўскага браў удзел малады Францішак Багушэвіч, пасьля выдатны паэт, адвакат і аўтар знакамітага «Не выракайцеся ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі». А ці зьмянілася пасьля паўстаньня палітыка царызму адносна беларусаў?**

**ВБ:** Паўстаньне выклікала рост цікавасьці да Беларусі, якая стала адным з тэатраў баявых дзеяньняў, а таксама пастаўшчыком вайсковай сілы.

Пасля паўстаньня Беларусь стала ўспрымацца так, як мы разумеем яе цяпер: як вялізная краіна, ад Чарнігава і да Берасьця, ад Беластока і да Смаленска, ад Дзьвінска і да Пінска, населеная этнічнымі беларусамі, якія гавораць па-беларуску.

Пры чым гісторыя распарадзілася так, што да выпрацоўкі новага, этнічнага разуменьня беларускасці прыклалі руку ідэалагічныя супернікі Каліноўскага — тагачасныя «заходнерусісты» на чале з Міхалам Каяловічам — у адказ на ідэі паўстаньня.

Паўстаньне выклікала надзвычайную палітызыцыю і радыкалізацыю тагачаснага інтэлектуальнага асяроддзя.

Каб нічога такога падобнага ніколі не паўтарылася, імперскія ідэолагі імкнуліся разбурыць палітычнае і культурнае адзінства краёвай эліты даўнейшай Рэчы Паспалітай этнічнымі аргументамі.

Тагачасная расійская навука зрабіла ўсё, каб польскасць, якая грунтавалася на шырокіх грамадзянскіх падмурках, разумелася толькі ў вузкім этнічным сэнсе. Для палякаў гэта варажыла катастрофу: яшчэ нядаўна Віцебск і нават Смаленск успрымаліся як польскія гарады, а цяпер выяўлялася, што рускія (украінскія або беларускія) вёскі знаходзіліся за 70—100 кіламетраў ад Варшавы.

**«НН»: У гэтым сэнсе «палітычнымі палякамі» былі і ўсе тагачасныя насельнікі беларускіх ды ўкраінскіх земляў?**

**ВБ:** Калі гаворка пра каталіцкую і ўніяцкую эліту, то бязумоўна так. У праваслаўных беларусаў польскасьць нішчылася хутчэй, але формула «праваслаўны паляк» ні ў якім разе ня вынаходка сацыялістычнай Польшчы. Падчас вайны 1812 праваслаўная эліта Магілёва станавілася на французскі бок і марыла аб адасабленьні ад Расіі. У цэнтры краіны гэты дух захоўваўся і праз 50 гадоў: у 1850-я мінскіх гімназістаў ссылалі ў салдаты за дэманстрацыйнае падкрэсьліванне сваёй польскасці.

**«НН»: Выходзіць, паўстан не — паваротная падзея ў гісторыі беларускай нацыі і дзяржаўнас ці. Рэакцыя царскіх уладаў на паўстаньне стварыла перадумовы для развіцця беларускага нацыяналізму. Улады ў адказ на паўстаньне сталі змагацца з «духам польскасьці» і «перажыткамі літоўскасьці», у выніку беларусы зразумелі, што яны на самой справе адрозьніваюцца і ад палякаў і ад расейцаў. Да таго ж, расійскія ўлады пагадзіліся з назвай «Беларусь» для нашых зямель ізноў жа, каб яна выціснула старую, «небясьпечную» назву «Літва». І тая назва «Беларусь» прыжылася. Калі б не паўстаньне, то і назва «Беларусь» магла б не замацавацца, і асяроддзе не радыкалізавалася. Вось такія парадаксальныя наступствы часам маюць гістарычныя падзеі... Цікава, што савецкая гістарычная канцэпцыя таксама падавала Каліноўскага як героя.**

**ВБ:** Савецкая палітыка гістарычнай памяці была супярэчлівай і надзвычай хлусьлівай. Каліноўскаму «пашчасьціла», бо ён быў паўстанцам, а ў выніку ўзброенага паўстаньня самі бальшавікі захапілі ўладу.

Таму неўзабаве пасля кастрычніцкай рэвалюцыі, у 1920-я, яму было адведзена пэўнае месца ў нацыянальным пантэоне Савецкай Беларусі — у якасьці героя другога ці хутчэй трэцяга плана. Зь яго імем была зьвязаная пэўная індустрыя — вуліцы Каліноўскага, партрэты, літаратурныя творы. Прычым залічэньне ў пантэон было б ужо немагчымае ў 1930-я або 1940-я гады праз унутраную трансфармацыю савецкай сістэмы. На шчасьце, традыцыя была закладзена раней і заскарузлая савецкая сістэма ўжо не знайшла ў сабе сіл выкрасьліць Каліноўскага з афіцыйнага канону памяці.

Палітыка памяці ў цяперашняй Беларусі падобная да савецкай. Праўда, афіцыйны дыскурс цяпер усхваляе не рэвалюцыйныя паўстаньні, а рэчы цалкам супрацьлеглыя — стабільнасць і палітычную пераемнасьць.

Таму некаторыя сёньняшнія ідэолагі топчуць нагамі Каліноўскага. «Конечно, праздновать тут нечего, поскольку этот экстремистский боевой листок [«Мужыцкая праўда»], издававшийся группой польских радикалов, не делает чести ни нашей литературе, ни публицистике», — піша галоўны рэдактар часопіса Адміністрацыі прэзідэнта «Беларуская думка» Вадзім Гігін.

**«НН»: Дзеля чаго гэта робіцца?**

ВБ: Нацыянальная памяць прэпаруецца і ачышчаецца ад усіх персанажаў з духам мяцежнасьці, паўстанцкай рамантыкі. Ствараецца прарасійская версія беларускай гісторыі, яе героі па вызначэньні ня могуць процістаяць уладзе, пагатоў са зброяй у руках. Сімптаматычна, што адзінай дзяржаўнай узнагародай, якую Лукашэнка скасаваў за час свайго кіраваньня, быў ордэн Каліноўскага.

**Самыя вядомыя выказваньні Каліноўскага**

*- Не народ для ўраду, а ўрад для народу.*

*- Дык сейце ж, дзяцюкі, як прыйдзе пара, поўнаю рукою — не шкадуйце працы,— каб і мужык быў чалавекам вольным, як ёсьць на цалюткім сьвеце.*

*- У нас, дзяцюкі, суды — гэта воўчая яма, дзе не разьбіраюць, ці за табой праўда, ці не. Бясьпекі ніякай няма, хто дужэйшы, той і глуміць; а войска то не для таго трымаюць, каб аберагаці кожнага ад злых людзей, а для таго, каб не пазволіць народу і застагнаць, калі пазнае сваю няволю, калі згледзіцца, што дзяруць зь яго над сілы.*

**(З «Мужыцкай праўды», якая выдавалася паўстанцамі ў лясох)**

- *З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, — але ня жаль зьгінуць за тваю праўду.*

*Прымі, народзе, па шчырасьці маё слова прадсьмертнае, бо яно як з таго сьвету толькі для дабра твайго напісана.*

*Няма ж, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тады ён толькі можа жыць у багацьці, праўдзе, тады ён толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, калі збагаціць навукай розум, разаўе сэрца і радню цэлую сэрцам палюбіць. Але як дзень з ноччу ня ходзіць разам, так ня ідзе разам навука праўдзівая зь няволяй маскоўскай. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе, ня будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, — адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, але на пагібель нашу.*

*Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжэ ня будзе.*

*Твой слуга Яська-гаспадар з-пад Вільні.*

(«Лісты з-пад шыбеніцы», напісаныя з турмы).

## Дзесяцікласьнік беларусізаваў школу

Вучань гімназіі №1 Наваполацка Даніла Астроўскі прыйшоў да дырэктаркі і папрасіў, каб у навучальнай установе праходзілі дні беларускай мовы.

Яна згадзілася. Першы такі дзень адбыўся ў пачатку сьнежня: усе прадметы (акрамя замежных моваў) выкладаліся на роднай мове, а самі вучні размаўлялі выключна па-беларуску. Па словах Данілы, гэтым захапілася амаль уся школа — асабліва добра ўспрынялі такую ініцыятыву малодшыя класы.

«Я прыйшоў перад вучобай, паставіў народную музыку і павесіў на ўваходзе плакат аб тым, што сёньня дзень беларускай мовы. Таксама разьвесіў плакаты на дошках аб'яваў. На ўваходзе даваў дзецям раздрукоўкі, што сёньня за дзень», — кажа Даніла Астроўскі.

«У нас быў урок матэматыкі па-беларуску, і самае прыемнае, што ўсе ўсё разумелі. Напачатку адна дзяўчына была супраць, але ў цэлым вучні ўспрынялі такі эксперымент пазітыўна».

У школьнай сталовай у гэты дзень падавалі стравы беларускай кухні — дранікі, зразы з бульбай, вінегрэт, чорны хлеб і салату з капусты.

«Я мяркую, калі зрабіць падобныя дні больш частымі і дадаць конкурсы, то мова б адраджалася. Спачатку адна школа, потым увесь горад, вобласьць, а там глядзіш, і ўся краіна», — кажа дзесяцікласнік.

«Буду прасіць дырэктарку рабіць такое штомесяц. А пасля — штотыдзень».

Вучні ад 2 да 9 класаў вельмі адказна паставіліся да дня беларускай мовы, а вось са старэйшымі было больш складана, адзначыў дзесяцікласнік. Сам ён кажа, што прапанаваў дырэктарцы праводзіць дні беларускай мовы праз тое, што роднай мовы проста бракуе ў школьным жыцці.

**Крыніца:** Наша Ніва, 2 лютага 2013

**Зацемка рэдактара КРЫВІ**: Тут памагла й дырэктарка - зь любоўю роднае мовы..

# Беларусь у сьвеце

## Марплз аб сустрэчы амэрыканскіх аналітыкаў з Лукашэнкам: Навошта?

*21 студзеня Аляксандар Лукашэнка сустрэўся з чатырма амэрыканскімі дасьледнікамі: Гленам Говардам — прэзыдэнтам Джэймстаўнскага фонду, Уладам Сокарам з гэтага ж фонду, Янушам Бугайскім з Цэнтру стратэгічных і міжнародных дасьледаваньняў і Грыгорыем Ёфэ, прафэсарам Рэдфардзкага ўнівэрсытэту.*

Гэтая сустрэча выклікала неадназначную рэакцыю як у Беларусі, гэтак і за яе межамі. На гэтую тэму выказаўся, у прыватнасьці, вядомы дасьледчык Беларусі **Дэйвід Марплз** у інтэрвію, якое ўзяў у яго супрацоўнік Фонду Маршала **Павол Дэмэш**, які і прапанаваў гэты тэкст нашаму радыё.

**Дэмэш: Вы зьяўляецеся адным з найбольш вядомых заходніх дасьледчыкаў Беларусі. Вы таксама часта выступаеце на выбітным сайце Джэймстаўнскага фонду. Прэзыдэнт гэтага фонду і два зьвязаныя з фондам аналітыкі нядаўна сустрэліся з Аляксандрам Лукашэнкам. Гэтыя сустрэча выклікала абурэньне сярод беларускай дэмакратычнай супольнасьці. Ці разглядаеце Вы сябе часткай гэтай каманды? Як Вы ацэньваеце гэты візыт?**

**Марплз:** Я нічога ня ведаў пра гэты візыт. Адзін зь яго удзельнікаў – Грыгорый Ёфэ – мае такі ж статус у Джэймстаўнскім фондзе, як і я – мы зьяўляемся незалежнымі аўтарамі тэкстаў пра Беларусь. Такім чынам, удзел прафэсара Ёфэ ў сустрэчы з прэзыдэнтам Беларусі - гэта яго асабістая справа. Але той факт, што ў сустрэчы бралі удзел прэзыдэнт фонду і галоўны аглядальнік Eurasian Daily Monitor паказвае, што візыт ня быў цалкам прыватным. Гэтыя людзі ня проста завіталі да Лукашэнкі. І візыт у адказ немагчымы, бо прэзыдэнту Беларусі забаронены ўезд у ЗША. Такім чынам, прадстаўнікі ЗША сустракаліся з чалавекам, якога амэрыканскі ўрад лічыць persona non grata. Навошта? Ці прагучалі на сустрэчы просьбы вызваліць Мікалая Статкевіча, Паўла Севярынца ці Дзьмітрыя Дашкевіча? Відавочна, не. Я прачытаў тры паведамленьні пра сустрэчу. Паводле ўсіх трох наведнікі падкрэсьлівалі, што Лукашэнка мае праблемы зь іміджам на Захадзе, віна за што ляжыць у значнай ступені на безадказных СМІ, што ён вызваліў вязьняў, якія «нават» не прасілі аб памілаваньні, што абодва бакі павінны быць рэалістычнымі і прыступіць да новага дыялёгу.

Калі я чытаю такія камэнтары пра заходнія СМІ, у мяне перад вачыма ўстаюць карцінкі 19-20 сьнежня 2010 году - кандыдат у прэзыдэнты Андрэй Саньнікаў ляжыць зьбіты і непрытомны на бруку плошчы Незалежнасці, зьбіваюць яго жонку, выцягнуўшы з машыны, Някляева зьбілі, а потым выцягнулі са шпітальнага ложку, 7 з 9 кандыдатаў у турэмнай камэры ў ноч выбараў. Аналягічная сытуацыя была і ў сакавіку 2006 году. І што зьмянілася з таго часу? Турэмны тэрмін Дашкевіча быў павялічаны, Саньнікаў і Міхалевіч далучыліся да Пазьняка [у эміграцыі], рэдактар часопісу ARCHE, адзінага свабоднага інтэлектуальнага часопісу ў Беларусі, накіраваўся па тым самым маршруце. Сотні беларускіх студэнтаў вучацца цяпер за межамі краіны і пачалі фармаваць буйныя грамады ў Варшаве, Вільні і іншых гарадах. Я не чуў, каб хаця б адно з гэтых імёнаў фігуравала ў размове. А наконт просьбаў пра памілаваньне, то гэта наагул дзіўны сюжэт – а за што, уласна, яго прасіць? На мой погляд, гэты візыт сьведчыць альбо аб дзіўнай наіўнасьці альбо аб глыбокім цынізме што да неабходнасьці захаваньня асноўных свабодаў.

**Дэмэш: Пры якіх умовах заходнія аналітыкі могуць прымаць запрашэньні ад Аляксандра Лукашэнкі ці іншых аўтарытарных лідэраў? Ці лічыце вы дапушчальным, каб яны наведвалі такіх лідэраў?**

**Марплз:** Я думаю, што гэта можа быць прымальным, калі запрошаныя таксама цяперашнія і былыя палітычныя зьняволеныя, а таксама лідэры апазыцыі. Але гэта адбудзецца толькі ў сытуацыі, калі Беларусь выканае патрабаваньні аб вызваленьні ўсіх палітвязьняў, забесьпячэньні свабоды СМІ, свабоды слова і сходаў (у поўным сэнсе апошняга слова). І тады ўзьнікае пытаньне пра абставіны нядаўняй



Др. Дэйвід Марплз

сустрэчы – чаму яна адбылася і чаму ў такім фармаце? Чаму дасьледчы Джэймстаўнскі фонд кінуўся падтрымліваць самы жорсткі рэжым у Эўропе? Гэта азначае нязгоду з асноўнымі прынцыпамі палітыкі ЗША (і ЭЗ) адносна Беларусі.

**Дэмэш: Якой Вы бачыце ролю заходніх аналітыкаў у пытаньні правоў чалавека, а менавіта ў пытаньні вызваленьня палітычных зьняволеных? Ці паспрыяў гэтаму нядаўні візыт Джэймстаўнскага фонду?**

**Марплз:** Я думаю, што тут мы павінны быць асьцярожнымі. Аналітыкі не могуць быць адвакатамі. Мы не можам адкрыта прымаць чыйсьці бок, не губляючы даверу да сябе. У мінулым я не браў удзел у сустрэчах з апазыцыяй альбо ў публічных дэманстрацыях у Менску і іншых месцах. Я праводжу дасьледаваньні, я гісторык, я аналізую сучасную палітыку, так што гэта лягічны спосаб паводзінаў. Але я думаю, мы абавязаныя сумленна паведамляць пра тое, што мы бачым, з улікам, зразумела, абмежаванага кола і часу камунікацыі . Мы не жывем у Беларусі, і, магчыма, мы не разумеем некаторыя аспэкты тамтэйшага будзённага жыцьця. Нават тады, калі мы знаходзімся там, мы камунікуем з пэўнымі коламі. Мы маем зносіны з інтэлігенцыяй і навукоўцамі, а не з калгасьнікамі і рабочымі. Тым не менш, я лічу, што праз чытаньне тэкстаў і размовы зь людзьмі мы можам дасягнуць пэўнага разуменьня грамадзтва.

На мой погляд, словы, сказаныя на гэтай сустрэчы – гэта ўскосная крытыка тых на Захадзе, хто ведае (і любіць) Беларусь і спрабуе сумленна ацаніць сытуацыю там. Я шмат вывучаў Беларусь, Украіну і Расею і магу зрабіць параўнаньне. Беларуская ўлада менш «злачынная», чым ўлада Расеі і Ўкраіны, ў пытаньні крадзяжу прыродных рэсурсаў, але яна, няма сумневу, больш жорсткая і помсьлівая.

Некаторыя мяркуюць, што Расея сёньня засвойвае «лукашызм» - досьвед беларускай палітыкі, пры Ўладзімеры Пуціне яна робіцца ўсё больш аўтарытарнай. Украіна пакуль не дайшла да такой ступені, але тамтэйшае кіраўніцтва вельмі карумпаванае. У Расеі і ва Ўкраіне было некалькі прэзыдэнтаў, у Беларусі толькі адзін. Праўда, гэта ня самая горшая дыктатура на плянэце, але яна стала горшай, а не лепшай з цягам часу, асабліва ў больш жорсткіх эканамічных умовах, калі прэзыдэнт больш

не мае доступу да танных расейскіх нафты і газу. Пашырэньне паўнамоцтваў КДБ і МУС выклікае глыбокую заклапочанасьць.

З апублікаваных паведамленьняў гэтыя пытаньні на сустрэчы не закраналіся. Замест гэтага крытыкаваліся «санкцыі» і заходнія СМІ. Адказ на пытаньне, чаму Захад павінен ладзіць новы дыялёг з афіцыйным Менскам, таксама не прагучала, але мяркую, што ён зьвязаны з двума тэзамі:

1) Беларусь і Лукашэнка служаць свайго роду фарпостам альбо буфэрнай дзяржавай супраць расейскай экспансіі альбо ўплыву на захад - вобраз адважнага лідэра, які супрацьстаіць драпежніку-хулігану, які хоча забраць яго рэсурсы

2) ЭЗ і Беларусь павінны працаваць на роўных - Беларусь не павінна разглядацца як дзіця. Гэта формула, якая прагучала ў камэнтары нямецкага аналітыка Аляксандра Рара.

**Дэмэш: Не маглі б вы спыніцца на гэтым больш падрабязна?**

**Марплз:** Першая тэза – гэта бязглузьдзіца. Лукашэнка служыць толькі сабе і сваёй уладзе. Што датычыцца другога, магчыма, ёсьць элемэнт паблажлівасьці ў тоне, якім з Беларусьсю размаўляюць сёньня. Але гэта сьледзтва ўнутрыэўрапейскай дыскусіі, ў якой Менск зьяўляецца адной з тэмаў. Калі краіна ўступіла ва Усходняе партнэрства, то яна прымае пэўныя прынцыпы, у тым ліку абавязаньні па рэфармаваньні грамадзтва, пашырэньні дэмакратыі і г.д. Так што заходнія аналітыкі не могуць адкінуць гэта і сказаць, што з Беларусьсю абыходзяцца несправядліва.

І я згодны, што санкцыі не зьяўляюцца ідэальнай палітыкай. Тым ня менш, нейкі адказ на абуральныя падзеі ў Беларусі неабходны. Якім будзе наш сьвет, калі мы проста скажам: гэта ўнутраная справа, давайце проста прымем Беларусі такой, якой яна ёсьць, і будзем вітаць Лукашэнку ў якасьці яе прадстаўніка ў парлямэнтах эўрапейскіх краін. Гэта было б ня толькі парушэньнем нашага доўгу, гэта было б абразай для тых, хто у Беларусі вядзе змаганьне, каб зьменіць грамадзтва, удзельнічаючы ў выбарах, апазыцыйных партыях і рухах, і ў грамадзкіх арганізацыях.

Тое, што яны дагэтуль ня маюць вялікага посьпеху, тлумачыцца ня столькі бракам папулярнасьці, колькі перасьледам іх з боку рэжыму. Таму я ня бачу асаблівых матываў, паводле якіх сучасныя міратворцы абараняюць прэзыдэнта Беларусі, якога «няправільна зразумелі».

**Крыніца:** Радыё Свабода, 29 студзеня 2013.

## Беларусы Іркуцка далучаюцца да адзначэньня ўгодкаў паўстаньня 1863 года

Беларусы Іркуцка далучацца да адзначэньня 150-годдзя нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863 года. З гэтай нагоды 26-га студзеня Таварыства Беларускай культуры імя Яна Чэрскага ладзіць круглы стол, прысьвечаны тэме паўстаньня, аднаму зь ягоных лідараў Кастусю Каліноўскаму і першай беларускай газетцы “Мужыцкая праўда”.

Як кажа старшыня таварыства Алег Рудакоў, на жаль, на Іркуччыне паўстаньне стэрэатыпна называюць “польскім”. Таму падчас Круглага стала плануецца “ламаньне” такіх стэрэатыпных поглядаў:

- Гэта пакуль што цяжкая справа, таму што шмат якія навукоўцы ў Іркуцку зь вялікімі імёнамі, прафесары, напісалі шмат працаў, прысьвечаных палякам у Іркуцку. А так як глядзіш – той і той маюць беларускае паходжанне. Мы гэта дасьледуем, працуем з архівамі, працуем з дакументамі, лістуемся зь беларускімі навукоўцамі, вядзем пошукі. І пачынаем па-троху адукоўваць мясцовых жыхароў і кажам, што давайце ўжо будзем больш справядлівымі і будзем называць людзей па іх сапраўдным паходжаньні, а не па нейкіх такіх стэрэатыпах.

Алег Рудакоў падкрэсьлівае, што Іркуцкае Таварыства культуры якраз носіць імя аднаго з удзельнікаў паўстаньня 1863 году – Яна Чэрскага. Пасля паўстаньня ён быў сасланы ў Сібір, а пазьней стаў вядомым геолагам і географам, напісаў больш за 90 навуковых працаў, прысьвечаных Байкалу і ваколіцам.

Круглы стол, прысьвечаны паўстаньню, меўся адбыцца ў памяшканьні Грамадскай палаты вобласьці, аднак у гэтым памяшканьні было адмоўлена. Таварыства рыхтуе мерапрыемства ў іншым месцы.

Яна Запольская, Беларускае Радыё Рацыя, 25.01.2013

## СПОРТ

## Разважаньні чэмпіёнкі

На сайце «Прессбол» прайшла анлайн-канферэнцыя са знакамітай беларускай плыўчыхай **Аляксандрай Герасіменяй** — чэмпіёнкай сьвету, двухразовай сярэбранай медалісткай Алімпійскіх гульняў-2012.

Сярод іншага, ёй было зададзена наступнае пытаньне: які сьцяг вам бліжэй: чырвона-зялёны ці бел-чырвона-белы?

Аляксандра адказала наступнае:

«З пункту гледжаньня эстэтыкі бел-чырвона-белы, вядома, больш сімпатычны. Ды і гісторыя ў яго куды больш багатая і насычаная

— Вялікае княства Літоўскае, Навагрудак, Мір, Нясвіж.

Мне ня хочацца думаць, што Беларусь вядзе адлік ад 1917 году і ганарыцца тым, што мы чэмпіёны свету па колькасці вуліц Леніна, Маркса, Энгельса і яшчэ бог ведае каго, хто ў нас ніколі ня быў.

У нашай гісторыі ёсць нямала слаўных дат,

і давайце ня будзем забываць, што ў свой час ВКЛ было адной з самых уплывовых дзяржаў Еўропы.

Вельмі вялікае ўражаньне на мяне зрабіла інтэрв'ю «Прессболу» нашага знакамітага гісторыка Захара Шыбекі, у якім ён распавёў шмат чаго пра невядомыя старонкі гісторыі нашай краіны.

Шкада, вядома, што мы выпусьцілі ініцыятыву, і літоўцы лічаць сябе нашчадкамі той вялікай дзяржавы.

Нам не хапае каранёў, каб адчуць сябе вялікай нацыяй, а генетыка — вялікая штука, якая творыць цуды нават праз стагодзьдзі».

Адказваючы на пытаньне пра геапалітычны вектар развіцьця Беларусі, Герасіменя абрала Еўропу. «Мы адтуль ментальна. Расія няхай цягнецца за намі, ёй не пашкодзяць агульнапрынятыя каштоўнасьці цывілізаванага сьвету», — перакананаячэмпіёнка.



*Аляксандра Герасіменя*

## Вікторыя Азаранка - двухразовая чэмпіёнка Australian Open!

Беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка другі год запар здолела выйграць фінал адкрытага чэмпіянату Аўстраліі. Разам з заваёвай тытулу беларуска захавала статус першай ракеткі свету.

У драматычным фінальным паядынку Азаранка перамагла ў трох сетах прадстаўніцу Кітаю На Лі. Саступіўшы ў першай партыі азіятцы, 4:6, Вікторыя пасля дамаглася пералому – 6:4, 6:3. Сустрэча была адзначана двума медыцынскімі тайм-аўтамі, якія спатрэбіліся кітайцы пасля траўмы нагі. Азаранка ўдала дзеіла на падачы суперніцы, здзейсніўшы шмат брэйкаў, аднак сваю брала з цяжкасцю.

Трэба адзначыць, што аўстралійская публіка падтрымлівала пераважна кітайку. Цягам гульні ў Мельбурне адбыўся таксама файерверк у гонар Дня Аўстраліі.



Вікторыя Азаранка заваявала другі ў сваёй кар'еры тытул Grand Slam і бліжэйшыя тыдні застанецца першай ракеткай планеты. Другая пазіцыя ў рэйтынгу ў амерыканкі Сірэны Ўільямс, якая на чэмпіянаце Аўстраліі выбыла ў чвэрцьфінале.

Уладзімір Хільмановіч, Беларускае Радыё Рацыя, 26.01.2013

## Беларусы Эўразьвязу

## Спектакль на беларускай гаворцы вандруе па вёсках Падляшша

Новы спектакль на беларускай гаворцы Падляшша створаны тэатральнай групай, якая дзейнічае пры Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Казка Ганса Хрысціяна Андэрсэна "Сьпячая прынцэса" ў перакладзе Яна Максімюка вандруе па падляскіх вёсках. Па словах кіраўніка тэатральнай групы **Ёанны Стэльмашук-Троц**, гутарковая мова абрана для спектакля нявыпадкова:

*– На Падляшшы шмат хто гаворыць «па-своему», таму думаю, што варта карыстацца гэтай мовай, таму што яна жывая. Перад пачаткам спектакля людзі паміж сабой размаўлялі на гаворцы і мы задаволеныя, што мы робім спектаклі на мове, якая блізкая людзям. Таму лічу, што гэта добрая дарога. Сьведамасць малой айчыны ёсьць і гэта трэба разьвіваць, і гэтым трэба ганарыцца.*

Тэатральная група Беларускага музея ў Гайнаўцы працуе над чарговай пастаноўкай, на аснове твораў Сакрата Яновіча. Прэм'ера новага спектакля адбудзецца ўвесну.

**Крыніца:** Беларускае Радыё Рацыя, 30.01.2013

Наталля Герасімюк,

## Беларусы Эўразьвязу

# Калядны вечар у ТБК

*Вам – пакорным рабам – не вясны,*
*+Рукі накрыж злажыўшы чакаці,*
*А пад гоман паўночнай зімы*
*Яму ў полі сабе будаваці.*
*Янка Купала*

У калядны вечар 29 сьнежня сябры Таварыства беларускай культуры ў Літве сабраліся, каб правесьці апошнюю імпрэзу ў гэтым годзе. Распачаў яе сябра рады ТБК Валеры Радзюкевіч, які і быў у гэты раз вядучым.

Першым выступіў актыўны сябра Таварыства, рэдактар беларускай праграмы на літоўскім радыё Андрусь Старавойтаў, які распавёў пра сьвятога Яўстафія, аднаго з трох віленскіх пакутнікаў, парэшткі якіх знаходзяцца ў Святадухавым праваслаўным манастыры Вільні. Яго выступ складаўся зь дзьвюх частак. У першай Андрусь распавёў пра афіцыйную гісторыю сьвятога Яўстафія, а ў другой – падзяліўся сваімі думкамі адносна самаго культу парэшткаў трох пакутнікаў у манастыры. Афіцыйная гісторыя сьцьвярджае, што сьвяты Яўстафій быў закатаваны пры літоўскім князе Альгердзе за праваслаўную веру. І так сталася, што пасьля пакутніцкай смерці ён праславіўся і яго парэшткі сталі нятленнымі. З таго часу яны захоўваліся з большага ў Вільні, непрацяглы час у Маскве. Варта дадаць, што парэшткі трох віленскіх пакутнікаў былі разьдзелены і частка іх захоўвалася ў Візантыі. Далей Андрусь дзяліўся думкамі наконт самогу культу Трох віленскіх пакутнікаў. На яго думку, лепш было б, каб яны захоўваліся дзесьці ў сутарэньнях кляштара і ня былі выстаўленымі на агульнае агляданьне, бо што карысьці з таго, што людзі бачаць мёртвыя, хаця і нятленныя, целы. Ці не прасьцей было б проста да іх зьвяртацца ў сваіх малітвах. Ды і самі пакутнікі ці былі б задаволеныя з такога ўсеагульнага агляданьня, пакляненьня, а ў дадатак і раздзяленьня іх целаў на кавалкі, якія пасьля перадаюцца ў іншыя цэрквы і манастыры для пакланеньняў: для Бога больш важна шчырая малітва, а не бессансоўнае цалаваньне парэшткаў мёртвага чалавека.

Сярод многіх беларускіх дзеячоў, пісьменьнікаў існуе думка, што сьвяты Яўстафій быў беларусам, з чым не пагадзіўся выступоўца Андрусь Старавойтаў. Ён адзначыў, што ў афіцыйных дакументах на гэта няма ніякіх указаньняў. І другі факт, які яго схіляе да гэтай думкі – Масква вельмі паважна ставіцца да культа трох віленскіх пакутнікаў, а як вядома, яна вельмі неталерантная да чужой культуры, традыцый, вераваньняў. Таму, па яго словах, калі б ён быў бы беларусам, Масква проста зьнішчыла б цела і культ трох віленскіх пакутнікаў быў бы забытым.

У снежні споўнілася 70 гадоў з моманту пакутніцкай сьмерці аднаго з найбольш слаўных сыноў беларускай зямлі ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. Яго служэньне было прыкладам самаахвярнай адданасьці Бацькаўшчыне і сведчаньнем яго усеабдымнай і неабсяжнай любові да Беларусі. На жаль, сёньня не хапае сьвятароў такога кшталту. У тыя складаныя гады міжваеннай Беларусі ў Польшчы ён ня толькі прапаведваў Слова Божае на беларускай мове, але дапамагаў беларусам быць беларусамі. Вядома, яго дзейнасьць не падабалася польскім уладам, за што ён неаднаразова перасьледваўся і судзіўся польскімі ўладамі. У 1927 годзе за сваю дзейнасьць быў асуджаны на два гады турмы.

За што ж польскія ўлады судзілі беларускага сьвятара? Прывяду толькі цытату з пратаколу судовага паседжаньня, якое адбылося ў Вільні 12 чэрвеня 1926 г.:

*„Ад сведкаў устаноўлена, што, будучы пробашчам Жодзішскай парафіі цягам 4-5 гадоў, пры кожнай магчымасьці сустракаючыся з людзьмі сваёй парафіі, якія пераважна беларускай нацыянальнасьці, ці ў каляды, ці аказваючы хворым рэлігійныя паслугі, ці ў іншых акалічнасьцях, прыватных размовах, казаў, што ўсё, што польскае – злое: польскіх настаўнікаў называў псамі, той жа мянушкай „псы“ называў паліцэйскіх функцыянераў і казаў, што іх трэба гнаць у Варшаву; адвучваў людзей гаварыць па-польску, а загадваў ужываць беларускую мову (сведка Ян Санюк); аб польскай школе казаў, што яна псуе дзяцей; заклікаў не плаціць падаткі і не даваць жаўнераў у польскае войска, тлумачыў, што як будзе Беларусь, гэтага ня трэба будзе рабіць, што мясцовым жаўнерам не патрэбна будзе ісьці ў Варшаву, а лепей заставацца сярод сваіх; каб нявыплата падаткаў не цягнула за сабой рэпрэсіі, раіў „арганізоўвацца“, што ,значыць, іншымі словамі – раіў супрацiўляцца выплаце падаткаў не па аднаму, а арганізаванай масай; высьмейваў беднасьць людзей, якія добраахвотна плацяць падаткі, спецыяльна з той мэтай, каб выклікаць у іх нежаданьне іх выплочваць: нічым іншым нельга патлумачыць яго выказваньне ў аднаго хворага: „У мяне (г. зн. у кс. Гадлеўскага) войт пастаяў і выйшаў, а вы, дурні, плаціце падаткі“ (сведка Міхал Мурашка).*

*Наступным фактам агітацыі супраць выплаты падаткаў можна лічыць такі факт: калі прадаваўся маёнтак за нявыплату падаткаў, кс. Гадлеўскі падбухторваў насельніцтва, каб ня куплялі таго маёнтку, а купленае казаў вяртаць. Далей, як казалі сведкі, сваёй мэтай кс. Гадлеўскі ставіў аддзяленьне Беларусі ад Польшчы, пры чым гэта так прапагандаваў: трэба праводзіць агітацыю ў народзе і такім чынам даведвацца, хто якой нацыянальнасьці, а калі прыдзе хвіліна і выбухне вайна, або які іншы „бунт“, выйграем „вайну“, „выйграем Беларусь“, „злучымся зь літоўцамі ці бальшавікамі, бо гэта лепш, чым з палякамі. Як за часамі Расіі мы „былі“ нявольнікамі Расіі, так зараз „зьяўляемся“ нявольнікамі Польшчы“, павінны палякаў перамагчы і хоць за дзесяць гадоў, але „даб'емся“ незалежнасьці. Узгаданы ў гэтай справе Рогач са слоў кс. Гадлеўскага казаў, што калі будзе паўстаньне, бальшавікі прыйдуць на дапамогу (сведак Ігнат Мілашэўскі). Для паўстаньня незалежнай Беларусі найперш трэба, казаў кс. Гадлеўскі, „стварыць“ беларускія школы, а калі гэтыя пляцоўкі паўстануць, тады тут жа выбухне рэвалюцыя. „Польскага арла, казаў кс. Гадлеўскі Дамініку Шэнберу, калі асьвячаў яго дом, абвінавачаны, „выкінь пад ногі і патапчыся, а лепш на гэтым месцы абраз павесь“.*

*Такія дзеяньні сведчаць аб яго антыдзяржаўнай дзейнасьці. Вынікае, што гэта ня былі спробы ўзбудзіць нацыянальную сьвядомасьць беларускага насельніцтва з мэтай захаваньня бацькоўскай мовы і стварэньня беларускіх школ як культурна-асветніцкіх асяродкаў, а спробы падбухторыць беларускае насельніцтва супраць усяго польскага, супраць польскай дзяржаўнасьці, агітацыі тых, хто хоча стварэньня незалежнай Беларусі не дарогай эвалюцыі, а рэвалюцыі. І гэтая варожая дзейнасьць кс. Гадлеўскага знаходзіла водгук сярод людзей – бо ня толькі ў*

*адной Жодзішскай парафіі, але і ў суседніх парафіях наступіў раскол паміж палякамі і беларусамі, які 26 красавіка 1925 года прывёў да бойкі паміж беларусамі і палякамі пад час беларускага казаньня. Беларусы палякаў называлі ваўкамі, выходзячы з касьцёла казалі, што палякаў хутка будуць драць. Словам, агітацыя кс. Гадлеўскага прывяла да такога варожага стаўлення беларусаў да палякаў, што, як дакладна казаўся сьведка Юзэф Мілашэўскі, у „нас зараз такі тэрор, што „боязна“ прызнацца аб польскасьці, як і за расійскім часам“.“*

Старшыня ТБК Хведар Нюнька ўзгадаў пра вядомага літоўскага навукойца Тодара Іваноўскага (Тадаса Іванаўскага), які паходзіў са славутага беларускага роду і быў родным братам вядомага беларускага дзеяча Вацлава Іваноўскага. Так сталася, што гэта сям’я дала дзеячоў для трох народаў: беларусаў, палякаў, літоўцай. Так скаліся абставіны, што спадар Хведар быў знаёмы з Тадасам Іванаўскам, які ў яго быў выкладчыкам, калі ён навучаўся ў Коўна. Там Тадас Іванаўскас выкладаў дысцыпліну, зьвязаную з птушкамі. Варта адзначыць, што ён высока цаніўся ў Літве і СССР як навуковец і быў даволі багатым. Сам жа Хведар Нюнька шкадуе, што нягледзячы на тое, што змог з ім пасябраваць, аднак да канца так і не зблізіўся з гэтай асобай і не зьездзіў зь ім на яго радзіму ў Беларусь.

Артур Юдыцкі ў сваім дакладзе закрануў праблему зьнішчэння беларускай мовы ў БССР, а таксама і ў сёньняшняй Беларусі. Яго выступ быў прысьвечаны зьяўленьню ў 1957 годзе ў ЛІМе артыкулу Барыса Сачанкі супраць ігнараваньня беларускай мовы ў школьным навучаньні, які першым на ўвесь голас падняў трывогу ў канцы 1957 году ў артыкуле **«Шанаваць родную мову».** Сачанка, на довад сваіх цверджаньняў аб дэградацыі беларускай мовы, прывёў шмат аўтэнтычных фактаў. Між іншым, ён пераказаў размову з адной настаўніцай з Магілеўшчыны, якая яму расказала наступнае: «Я зь вёскі з-пад Магілева, вучылася ў беларускай школе, здаецца, да паступленьня ва ўнівэрсытэт нядрэнна і гаварыла па-беларуску. А там забыла ўсё. Ды гэта і ня дзіўна. Пяць год ня было чуваць на лекцыі беларускага слова!» Камэнтуючы гэтыя словы, Сачанка далей засьцерагае: «Куды-б ты не паступаў - у тэхнікум або інстытут - беларускай мовы й літаратуры здаваць ня трэба. Зайдзі ў любую арганізацыю, у любую ўстанову - усе справы вядуцца на рускай мове. Родная мова амаль ня ўжываецца ні на шыльдах, ні на этыкетах». Каб надаць большае палітычнае вагі сваім словам ды, відаць, застрахавацца перад абвінавачаньнем у «нацыянальнай абмежаванасьці й вылучнасьці», аўтар, зацытаваўшы словы Леніна: «члены РКП на тэрыторыі Ўкраіны павінны на справе праводзіць права працоўных мас вучыцца й гаварыць ува ўсіх савецкіх установах на роднай мове, усяляк процідзейнічаючы русіфікатарскім спробам адцясьніць украінскую мову на другі план, ператвараючы яе ў сяродак камуністычнай адукацыі народных мас» - заканчвае свой артыкул высновай: «Гэта ленінскае палажэньне поўнасьцю адносіцца й да нашай беларускай мовы».

Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, сферы ўжываньня беларускай мовы ўвесь час звужаліся.

Крыўдна і іншае, тое, што сёньня яна таксама цалкам ігнаруецца, прычым, ня толькі афіцыйнымі ўладамі, але і беларускай апазіцыяй.

На вялікі жаль, у сёньняшняй Беларусі беларускія паэты не шануюцца і малавядомыя. Таму наш абавязак прапагандаваць іх імёны як мага шырэй.

Варта зазначыць, што беларусы сёньня ня ведаюць слаўных імёнаў сваёй зямлі. Мы ганарымся тым, што ведаем Пушкіна, Талстога, Дастаеўскага, але нават не зьвяртаем увагі на той момант, што а сваіх айчынных пісьменьнікаў, паэтаў, мастакоў мы ня ведаем, альбо ведаем вельмі мала, а яшчэ менш знаёмыя зь іх творчасьцю. Таму, з аднаго боку беларуская культура вельмі багатая, створана надзвычай шмат, але яна не вядомая, перадусім, самім беларусам. Таму хочацца спадзявацца, што ўсё ж такі пакрысе мы будзем пазнаваць разам зь дзеямі сусьветнай культуры і дзеі сваёй зямлі, якая нас нарадзіла, ускарміла. А мы аказаліся яе няўдзячнымі сынамі. Таму будзьма беларусамі, будзьма чытаць вершы сваіх паэтаў, кнігі беларускіх пісьменьнікаў і вывучаць беларускую гісторыю не праз прызму рускай, а як сваю.

На прыканцы імпрэзы сваім выступам нас парадаваў украінскі хор „Світліца“. Сталася ўжо добрай традыцыяй, што ўкраінскія сябры стала нас наведваюць. І вельмі прыемна ў іх бачыць родныя душы, бо ў многім праблемы, з якімі сёньня сутыкнуліся беларусы, падобныя і да украінскіх, перадусім русіфікатарскія працэсы, якія працякаюць на нашых землях.

І ў заканчэньні Таварыства віншуе ўсіх з Калядамі і Новым 2013 годам і заклікае беларусаў быць беларусамі і да далейшага супрацоўніцтва ў Новым годзе.

В.а. старшыні ТБК Валер Радзюкевіч

Сябра Рады Алесь Адамковіч

# Хведар Нюнька: Беларусы ў Літве сваёй дзяржавай кінутыя

*Заплянаваны на наступнае лета чарговы зьезд беларусаў сьвету ў Менску можа і не адбыцца. Зь незразумелых прычынаў беларускія амбасады перасталі даваць візы найбольш актыўным прадстаўнікам беларускай дыяспары.*

Адным зь неўязных у Рэспубліку Беларусь нядаўна стаў старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведар Нюнька — мой сёньняшні госьць.

**— Спадар Хведар, вам неяк патлумачылі прычыны адмовы ў візе?**

— Нічога мне не патлумачылі. Больш за тое, пра мае праблемы зь візай ведаў сам амбасадар Дражын. Паколькі я ня меў кантакту зь беларускай амбасадай у Літве, то сам я туды не зьвяртаўся. Зьвярталася Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», бо я ўваходжу ў яе раду і плянаваў удзельнічаць у наступным зьезьдзе. Мне было адмоўлена ў візе. Падчас выпадковай сустрэчы ў Доме нацыянальных мяншыняў з амбасадарам Беларусі я ў яго проста спытаўся, чаму мне не даюць візу? Калі ёсьць устаноўка наконт мяне з вышэйшых інстанцый, то мне трэба пра гэта сказаць. Чаму трэба маўчаць? І амбасадар сказаў, што віза будзе. Наша сустрэча адбылася яшчэ да адмовы. Відаць, не ад яго залежыць...



*Хведар Нюнька*

**— У Вільні існуюць два аб'яднаньні беларусаў — ваша таварыства і «Сябрына», якой кіруе Раман Вайніцкі. Вы зь ім ня сышліся ў ацэнцы палітычнага ладу ў Беларусі. А ці засталося нешта, што вас па-ранейшаму аб'ядноўвае?**
— Нас падзяліла палітыка таго рэжыму, які знаходзіцца пры ўладзе ў Беларусі. А ўвесь час раней беларусы дзейнічалі заадно, былі згуртаваныя. А цяпер ёсьць «чэсныя» і «нячэсныя», як і ў самой Беларусі. Але мы тут стараемся кантактаваць. Менавіта Раман Вайніцкі пры нашай сустрэчы, хоць ён у акцыях пратэсту ня ўдзельнічае, сказаў, што Беларусь у нас адна, і дзяліць яе няма патрэбы. Таму важныя гістарычныя даты, прыкладам, Дзень Волі мы адзначаем разам пад нашай гістарычнай сымболікай — бел-чырвона-белым сьцягам і Пагоняй. Скажам, сёлета Дзень Волі ў Вільні працягваўся цэлы тыдзень. Быў нават арганізаваны аўтапрабег па ўсіх вуліцах гораду, машынаў было каля двух дзясяткаў. І гэта вельмі прыгожа выглядала, бо ўсе яны былі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Дык вось, у гэтым аўтапрабегу ўдзельнічаў таксама і Раман Вайніцкі на сваёй машыне.

**— Вы амаль усё жыцьцё пражылі ў Літве. Як сёньня беларусы тут пачуваюцца — у Вільні, на Віленшчыне?**
— На жаль, дзякуючы палітыцы, якую праводзіць кіроўны ў Беларусі рэжым, Віленскі край быў кінуты. Хоць Віленшчына дала нямала выдатных беларускіх дзеячоў нацыянальнага маштабу. Дастакова назваць Браніслава Тарашкевіча. Сьвятое месца пустым не бывае, таму беларускую пасыўнасьць выкарысталі другія нацыянальнасьці. Я маю на ўвазе найперш тутэйшых палякаў. Яны маюць вялізарную падтрымку з Польшчы, яны сёньня перамагаюць тут на выбарах і ўваходзяць у парлямант. Так што польская меньшасьць тут, скажам так, пры ўладзе — як у асобных раёнах, так і ў самім горадзе. Палякі маюць значныя дасягненьні — гэта вялізная школа імя Яна Паўла II, гэта Дом польскай культуры — Польшча выдаткавала на яго будаўніцтва 9 мільёнаў даляраў! Мабыць, так і павінна дзейнічаць разумная дзяржава, якая клапоціцца пра сваіх землякоў. Да беларусаў тут адносіны з боку мэтраполіі ня тое што адмоўныя... Яны проста — абыякавыя. Паўтаруся, мы тут сваёй дзяржавай кінутыя, і сёньня наша становішча як ніколі дрэннае. Возьмем такое параўнаньне з гісторыі. У 1922 годзе на выбарах па Віленскім краі беларусы змаглі даць 14 дэпутатаў на польскі Сойм. А што мы маем сёньня? У радзе самаўраду Вільні няма ніводнага беларуса, у Сойме літоўскім — ніводнага беларуса, у Эўрапарляманце ад Літвы — ніводнага беларуса.

**— Дык што, мае месца нейкая дыскрымінацыя?**
— Не, дыскрымінацыі беларусаў мы не адчуваем. Я ўжо 70 гадоў жыву ў Літве, і мяне ніхто не дыскрымінуе. Няма таго, што мы гаворым па-беларуску, і нас нехта за гэта перасьледуе. Але, зь іншага боку, на нас літоўскія ўлады глядзяць як на цыганоў, азэрбайджанцаў і г.д. Мы ня ў лепшым становішчы, хоць паводле гісторыі мы павінны займаць другое месца пасьля літоўцаў. У літоўскіх падручніках па гісторыі беларусы наогул не ўспамінаюцца. Я лічу — так быць не павінна. Павінна адбыцца нейкая канфэрэнцыя гісторыкаў — беларускіх і літоўскіх, каб знайсьці прымальны для ўсіх пункт гледжаньня на гэтую справу. Дык хто ж такія былі беларусы ў Вялікім Княстве Літоўскім? Горшага становішча ў беларусаў Літвы, чым сёньня, ніколі раней не было. Вось вынік той палітыкі, якую праводзіць сёньня антыбеларускі рэжым у Менску.

**— Але і ў неспрыяльных умовах ваша таварыства нямала зрабіла. Калі ідзеш па Вільні, прыемна бачыць мемарыяльныя дошкі Янкі Купалы, Браніслава Тарашкевіча... Дарэчы, колькі памятных месцаў вы адзначылі?**
— Дзякуючы намаганьням менавіта Таварыства беларускай культуры на аснове самаахвярнай працы мы паставілі ў горадзе 10 мэмарыяльных шыльдаў і нямала помнікаў беларускім дзеячам на Ліпаўскіх могілках і на Росах. Улічваючы тое, што мы не атрымліваем ніякай дапамогі зь Беларусі, а з боку літоўскіх уладаў маем дапамогу толькі сымбалічную, то больш мы зрабіць і не маглі. Нашыя апанэнты заяўляюць, што Хведар Нюнька — практычны чалавек, ня дурнейшы за іншых, мог бы заняцца бізнэсам, быць заможным чалавекам... Таму ён не працуе дарма, ён адпрацоўвае амэрыканскія грошы. Але я павінен сказаць, што ня бачыў тых амэрыканскіх грошай, ніадкуль я нічога не атрымоўваю, акрамя сваёй пэнсіі. Ёсьць невялікі гурток аднадумцаў, адданых беларускіх патрыётаў, і мы працуем ня дзеля нажывы. Вось і цяпер сваімі сіламі мы падрыхтавалі да выданьня кнігу «Беларусы ў Літве: учора і сёньня». Мы спрабавалі на гэты праект атрымаць падтрымку ад літоўскай дзяржавы — бязвынікова. Хоць я захаваў добрыя адносіны з дэпутатамі Сойму, Эўрапарляманту, з самім урадам Літвы. Ужо цягам 20 гадоў мы спрабуем вырашыць пытаньне з Музеем імя Івана Луцкевіча. У гэтай справе мы прайшлі ўсе інстанцыі, усе ступені ўлады, якія ёсьць у Літве. На апошняй сустрэчы ў Міністэрстве культуры я сказаў, што калі нават застанецца адзін беларус, гэтае пытаньне будзе падымацца, і яно абавязкова будзе вырашана.

**— Вы жылі пры розных акупацыйных рэжымах: пры палякх, пры немцах, пры камуністах. Як вы лічыце, якая пагроза Беларусі сёньня найбольш небясьпечная?**
— Беларусі сёньня шмат што пагражае. У першую чаргу — гэта заява Пуціна аб тым, што без аб'яднаньня Расеі з Украінай і Беларусьсю «працэс не закончаны». Сёньня Беларусь па-ранейшаму знаходзіцца ў залежнасьці ад Расеі, імпэрская палітыка якой ня спынялася ніколі. Ня спыніцца яна і цяпер. Таму ўсё залежыць ад нас, ад саміх беларусаў. Мы павінны дзейнічаць у абароне нашай незалежнасьці. І добры

крок у гэтым кірунку — апошняя канфэрэнцыя з удзелам Рады БНР, якая адбылася ў Вільні, і той мэмарандум, які быў на ёй падпісаны. Паверце, я неаднойчы быў сьведкам: як толькі ствараюцца ўмовы для адраджэньня нацыянальнай сьвядомасьці, беларушчына знаходзіць водгук у сэрцах і галовах беларусаў. І гэта павінна даваць нам падставы для аптымізму, такі момант павінен прыйсьці. Хоць сёньня ў беларускіх ВНУ штампуюцца манкурты — як вынік той ідэалёгіі, якую праводзіць у жыцьцё кіроўны ў Менску рэжым

.

**— Днямі адзначыў сваё пяцігодзьдзе тэлеканал «Белсат». Я ведаю, што для яго быў зьняты фільм «Беларускія справы», прысьвечаны вам. Але ён так і ня быў паказаны. Як вы лічыце — чаму?**

— Я не магу пагадзіцца, што фільм прысьвечаны мне. Ён прысьвечаны беларускім справам у Вільні. Там паказана дзейнасьць ТБК цягам двух дзясяткаў гадоў.

Школа і касьцёл ці царква — вось што робіць чалавека нацыянальна сьведамым

Фільм зьняла таленавітая Вольга Мікалайчык, наколькі я ведаю, самаахвярна. Таму мне незразумела, чаму яго не прынялі да паказу на «Белсаце». Можа, таму, што ў фільме я крытычна выказваўся адносна польскай палітыкі ў Заходняй Беларусі. Але факты дыскрымінацыі відавочныя, я сам гэтаму сьведка. Проста мае словы ня трэба ўспрымаць як крытыку ўсяго польскага. Я лічу, што сёньня Польшча дапамагае беларусам больш, чым Літва. Гэта я магу адкрыта сказаць. А вось забарона, няпрыняцьце гэтага фільму мяне засмучае

.

**— Вашыя дзеці, хоць яны грамадзяне Літвы, застаюцца беларусамі, гавораць па-беларуску. Што не дае беларусу за мяжой канчаткова асыміляваццa?**

— На жаль, беларусы асымілююцца лягчэй і хутчэй, чым другія нацыянальнасьці. Скажам, літовец, які зьяжджае на працу за мяжу, не парывае карэньняў, не забывае сваёй мовы. Сёньня, прыкладам, у Ангельшчыне існуе 30 літоўскіх школаў! А колькі за мяжой школаў беларускіх? Школа і касьцёл ці царква — вось што робіць чалавека нацыянальна сьведамым. І гэтага нам сёньня не хапае ў Беларусі.

## Беларуская Чэхія

# Выставу пра БНР у Празе адчынілі. У Менск – ня пусьцілі

Выставу супольна арганізавалі Эўрапейскі гуманітарны унівэрсытэт у Вільні і Цэнтральны дзяржаўны архіў Літвы пры ўдзеле амбасады Літвы ў Празе і Амбасады Чэхіі ў Вільні.

Невялікае памяшканьне Славянскай бібліятэкі ня здолела ўмясьціць усіх, хто прыйшоў на адкрыцьцё выставы -- ахвотных сабралася каля ста чалавек, і некаторым давялося слухаць прамовы на адкрыцьці, стоячы на сходах.

Першым выступіў дырэктар Славянскай бібліятэкі (якая ёсьць часткай Нацыянальнай бібліятэкі Чэхіі) Лукаш Бабка і пасьля ён даў слова прадстаўніку ЭГУ Юрасю Бачышчу.

Спадар Бачышча распавёў пра гістарычныя сувязі паміж Чэскай Рэспублікай і Беларусьсю, пачынаючы са сьв. Ераніма Праскага, які нёс слова Боскае на беларускія землі, а пазьней пра дапамогу рыцараў у змаганьні чэскага народу з крыжакамі. Як сказаў сп. Бачышча, гэта было “змаганьне за рэлігійную свабоду, якая ёсьць падмуркам любой свабоды”. Потым гэтыя сувязі працягваліся праз дзейнасьць Францыска Скарыны, які надрукаваў у Празе першы беларускі пераклад Бібліі і перайшлі праз стагодзьдзі да часоў БНР, якую падтрымала маладая Чэхаславацкая Рэспубліка, і цягнецца да цяперашняга часу, калі ўрад Чэскай Рэспублікі падтрымлівае змаганьне беларускага народу за свабоду і дэмакратыю.

Спадар Бачышча сказаў, што прыкметна, што менавіта ў Празе знаходзіцца рэдакцыя беларускай службы Радыё Свабода, якая ёсьць сёньня, як ён выказаўся, найлепшай крыніцай аб’ектыўнай інфармацыі пра падзеі ў Беларусі.

Сярод экспанатаў выставы, якую стварыў сябра Рады БНР Юрась Юркевіч - выявы раней невядомых дакумэнтаў Івана і Антона Луцкевічаў. Таксама ліст Язэпа Драздовіча Віленскаму беларускаму музэю імя Івана Луцкевіча з прапановай набыць ягоныя творы. Ліст датуецца 22 красавіка 1932 году. На выставе ёсьць і матэрыялы Таварыства беларускай школы, а таксама дакумэнты, прысьвечаныя беларускай вайсковай справе 1918-1920 гг.

У адкрыцьці выставы ўзяў удзел і амбасадар Літвы ў Чэскай Рэспубліцы Аўрымас Таўрантас.

Арганізатары выставы спрабавалі правесьці яе і ў Менску. І, як яны расказваюць, частка экспанатаў - копіі гістарычных дакумэнтаў на плякатах - была затрыманая на літоўска-беларускай мяжы, і гэтыя экспанаты не пусьцілі ў Беларусь, патлумачыўшы, што яны былі не належна аформленыя.

На адкрыцьці выставы прысутнічаў і першы сакратар амбасады Беларусі ў Празе Валянцін Шпак. На пытаньне Радыё Свабода пра тое, ці ёсьць шанцы для гэтай выставы патрапіць у Менск, ён адказаў, што шанцы заўсёды ёсьць, але на пытаньне, чаму тады экспанаты выставы не пусьцілі ў Беларусь, ён адказаў, што, відаць, арганізатары недакладна аформілі дакумэнты і што гэта была чыста тэхнічная праблема.

**Крыніца:** Радыё Свабода, 13 студзеня 2013 - Аляксей Знаткевіч

**КРЫВІЯ - Культурна-асьветніцкая газэта**
Выданьне беларускай дыяспары ў Чэхіі
MK ČR E 16919
РЭДАКЦЫЯ
Юрка Станкевіч
Ганна Васілевіч
Адрас рэдакцыі: Časopis KRYVIJA
ul. Malešická 553/65, 108 00 Praha 10